ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 5 ліпеня 2000 года

№ 51 (8120)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ІНФАРМУЕ БелТА

### ПОДЗВІГ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ — У ПАМЯЦІ НАШЧАДКАЎ

Кіраўніцтва Беларусі заўсёды будзе рабіць усё магчымае для таго, каб ветэраны Вялікай Айчыннай вайны маглі спакойна жыць у свабоднай краіне. Аб гэтым сказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 3 ліпеня — у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь — на ўрачыстай цырымоніі ўскладання вянкоў да манумента на плошчы Перамогі. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што толькі дзякуючы вялікаму подзвігу абаронцаў Айчыны, народ Беларусі цяпер жыве ў міры і згодзе. Вызваленне ад фашысцкага нашэсця далося цаной мільёнаў жыццяў, і памяць аб загінуўшых воінах назаўсёды застанецца ў сэрцах патомкаў. Прэзідэнт падкрэсліў, што дзеля дзяцей і ўнукаў ветэранаў мы пераадолеем усе нягоды і пабудуем дзяржаву, дзе кожны чалавек адчуе сябе свабоднай асобай.

### СЛАВЯНСКАЯ СЯМ'Я ПЛАНЕТЫ САБРАЛАСЯ Ў ВІЦЕБСКУ

Славянская сям'я планеты сабралася на 9-м Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар" у Віцебску. Ён будзе праходзіць у горадзе на Дзвіне з 5 па 10 ліпеня. Сёлета яго арганізатарам удалося запрасіць усе славянскія краіны. Славянскай сям'і планеты прадастаўлена ганаровае права пачаць свята мастацтваў. Менавіта такую назву атрымала канцэртная праграма на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця фестывалю. Па традыцыі на ёй выступіць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, пад патранажам якога і праходзіць творчы форум.

### ВА УРАДЗЕ РАЗГЛЕДЖАНЫ ПЫТАННІ ЛЕТНЯГА АЗДАРАЎЛЕННЯ ДЗЯЦЕЙ

На правядзенне летняй кампаніі па аздараўленню школьнікаў сёлета будзе выдаткавана 14 мільярдаў рублёў. Гэта складае амаль палавіну ўсіх сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, якія выдзелены на санаторна-курортнае лячэнне насельніцтва рэспублікі. Аб гэтым было заяўлена на пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў, якое прайшло пад старшынствам прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына. Як было адзначана, летам у рэспубліцы адкрыты 682 аздараўленчыя лагеры кругласутачнага знаходжання. А больш як 3 тысячы іх будзе працаваць толькі днём.

## * Нарыхтоўка кармоў

### НА ПАТОКУ — ВІТАМІННАЯ МУКА

Земляробы сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства "Чырвоны баец" працягваюць актыўную нарыхтоўку кармоў для грамадскага статка на прадстаячую зімоўку.

Травы першым укосам у гаспадарцы ужо амаль скошаны. З іх нарыхтавана 374 тоны сена, 1643 — сенажу, што складае адпаведна 124,7 і 149,4 працэнта да запланаванага.

Днямі тут заняліся вырабам травяной вітамінный мукі, якой ужо маецца 37 тон. Арганізавана дзвюхзменная работа з 7 гадзін раніцы да 10 вечара. Тут шчыруюць вопытныя працаўнікі, якія не адзін год заняты яе прыгатаваннем. Гэта апаратары Я.П.Каляснікаў, А.Р.Грэбень, гранулятаршчыкі Л.С.Манетаў, У.К.Міхалёнак.

Як нам паведамілі ў райсельгасхарчы, у СКП "Чырвоны баец" на ўмоўную галаву жывёлы назапашана па 8,1 цэнтнеры кармавых адзінак — гэта пакуль лепшы паказчык па раёне.

**Уласн. інфарм.**

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ**
**аб ходзе нарыхтоўкі кармоў па становішчу на 4 ліпеня г.г.**
**(у працэнтах да плана)**

| Гаспадаркі | Скошана ўсяго | Нарыхт. сена | Нарыхт. сенажу |
|---|---|---|---|
| СКП «Ніва» | 100 | 103,1 | 87,9 |
| імя Дзяржынскага | 100 | 45,4 | 15,3 |
| «Шыннік» | 100 | 45,4 | 74,0 |
| імя Калініна | 100 | 23,7 | 60,9 |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 100 | 22,4 | 46,3 |
| с-с імя Кірава | 99,8 | 47,1 | 42,4 |
| імя Кірава | 99,5 | 16,1 | 123,1 |
| «Камуніст» | 98,4 | 26,2 | 35,9 |
| СКП «Чырвоны баец» | 98,2 | 124,7 | 149,4 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 97,9 | 25,0 | 22,2 |
| «Радзіма» | 95,0 | 35,6 | 16,7 |
| «Беларусь» | 93,2 | 21,1 | 81,6 |
| імя Свярдлова | 91,0 | 16,4 | 43,1 |
| «III з'езд Саветаў» | 90,5 | 21,9 | 36,0 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 89,7 | 15,8 | 23,3 |
| імя Чапаева | 87,7 | - | - |
| імя Ільіча | 58,6 | 11,6 | - |
| Усяго па раёне: | 95,0 | 31,3 | 47,2 |

Заўвага: у калгасе імя Чапаева нарыхтавана 24,5 % сіласу, у калгасе імя Свярдлова — 21,5%.

## У ГОНАР СВЯТА



**Вельмі разнастайнай і насычанай была праграма святкавання Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) у райцэнтры. Мерапрыемствы адбыліся на стадыёне. Нягледзячы на халаднаватае надвор'е, тут сабралася шмат кіраўчан, жыхароў раёна і гасцей.**

Пад мелодыю пазыўных песні "Радзіма мая дарагая" на святочна ўбраную сцэну ўзняліся вядучыя — супрацоўнік цэнтральнай бібліятэкі Валянціна Іваніцкая і работнік РДК Артур Міронаў. Яны шчыра віталі прысутных і прадаставілі слова старшыні раённага выканаўчага камітэта А.С.Сцяпанчанку. У сваім выступленні кіраўнік раённай "вертыкалі" нагадаў памятныя вехі гісторыі нашай Беларусі, барацьбы яе народа за незалежнасць і свабоду, спыніўся на сённяшнім дні рэспублікі, а таксама шчыра павіншаваў усіх сабраўшыхся са святам, выказаў удзячныя словы ў адрас ветэранаў.

Сугучным яго прамове было музычнае прывітанне вядомай у раёне спявачкі Людмілы Кіхтэнка — 



песня "Люблю цябе, Белая Русь".

А затым у цэнтр агульнай увагі трапілі прызыўнікі — хлопцы, якім у хуткім часе прадстаіць апрануць салдацкую форму і прыступіць да выканання свяшчэннага абавязку па абароне Айчыны. Яны выйшлі на зялёны газон стадыёна пад гукі марша "Развітанне славянкі". Сумленна выканаць свой абавязак, вярнуцца са службы загартаванымі, моцнымі прызыўнікам пажадаў райваенкам С.А.Іваноў, дастойна працягваць традыцыі дзядоў і бацькоў — старшыня раённага савета ветэранаў вайны і працы А.П.Маглюй.



(Заканчэнне матэрыялу на 2-й старонцы).

## Падпіска

### У НАПРУЖАНЫМ РЫТМЕ

*Падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе праходзіла вельмі напружана. Адмоўную ролю ў гэтай справе адыграла павелічэнне кошту на ўсе газеты і часопісы.*

*Як нам паведамілі ў аддзеле падпіскі раённага вузла паштовай сувязі, нягледзячы на цяжкасці, з даведзеным планам тут справіліся. Усяго выпісана 18350 экземпляраў.*

*Павялічылася колькасць падпісчыкаў на рэспубліканскія выданні, іх у другім паўгоддзі будзе паступаць чытачам раёна 10496 экземпляраў (для параўнання: у 1 паўгоддзі — 10124), а вось у абласных газет колькасць прыхільнікаў зменшылася. Калі на працягу першых шасці месяцаў бягучага года чытачы атрымлівалі 3011 экземпляраў, то зараз — толькі 2825.*

*У разрэзе па выданнях на першым месяцы раённая газета "Кіравец" —2727, затым ідзе "Советская Белоруссия" — 1789 экземпляраў. "Згубіла" 224 падпісчыкі ў нашым раёне "Белорусская нива", зараз яе будуць атрымліваць 818 экземпляраў замест 1042, якія ішлі ў першым паўгоддзі.*



*У правядзенні падпісной кампаніі ўсе аддзяленні паштовай сувязі прымалі актыўны ўдзел. Вельмі дапамагалі паштавікам і грамадскія распаўсюджвальнікі. Тут пастаяннае лідэрства ўтрымліваюць Л.І.Марцючэнка з райбальніцы, А.М.Вінакурава з дрэваапрацоўчага камбіната, Г.А.Кармазанашвілі з аўтапарка №14.*

*Каб атрымліваць пэўнае выданне са жніўня, падпіску можна аформіць да 13 ліпеня — на рэспубліканскія, да 20 — на абласныя, да 25 — на раённую газету "Кіравец".*

## ТЭЛЕФОН 02 ПАВЕДАМЛЯЕ

**У міліцэйскіх зводках з 19 па 27 чэрвеня бягучага года працягваюць пераважаць крадзяжы грамадскай і асабістай маёмасці.**

У 44-м квартале Любоніцкага лясніцтва невядомыя асобы ўчынілі крадзёж шведскіх бензапіл.

У РАУС паступіла заява начальніка раёна электрасетак М.Н.Каранкевіча аб тым, што з трансфарматарнай падстанцыі п.Жылічы у невядомым напрамку зніклі шыны і дзверы.

У маі — чэрвені са склада мехдвара калгаса "III з'езд Саветаў" у в.Пацава Слабада былі ўкрадзены ядахімікаты.

Супрацоўнікамі аб'яднання "Ахова" былі выкрыты факты крадзяжоў 10 кілаграмаў камбікорму з фермы калгаса імя Кірава гр.Акушэвіч І.М., трох кілаграмаў тварагу рабочым масларобчага завода Свірко П.З.

Не грэбуюць злодзеі нічым. З аўтамашыны ў кіраўчаніна Бяляўскага невядомыя асобы забралі аўтамагнітолу "Гродна", электронны гадзіннік, 5 аўдыёкасет.

У жыхаркі райцэнтра з хлява зніклі тры куры, а яшчэ ў адной нячыстыя на руку людзі ўчынілі крадзёж веласіпеда.

Адметны выпадак адбыўся 25 чэрвеня каля дзвюх гадзін ночы на лясной дарозе ў трох кіламетрах ад в.Любонічы. Трое невядомых асоб спынілі аўтамашыну, у якой ехалі двое бабруйчан, збілі іх і забралі дакументы на аўтамабіль, пашпарт, 20 долараў ЗША.

Да адміністрацыйнай адказнасці за знаходжанне ў грамадскіх месцах у п'яным выглядзе і недастойныя паводзіны прыцягнуты: непрацуючыя жыхары в.Ст.Дваранінавічы Цярнецкі І.В., в.Шалаеўка — Шавялёў С.М., кіраўчане Мухін В.І., Александровіч А.Я. (трактарыст калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага), Ермалаеў У.Я., Дзямідаў С.А., Гушчын С.І. (трактарыст прадпрыемства меліярацыйных сістэм), Дзятлаў В.С. (рабочы СШ №1), іншыя.

# У ГОНАР СВЯТА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Наказ будучым абаронцам Айчыны ад імя ўсіх маці зачытала Н.Ц.Бацян. Яе сын Раман разам з іншымі хлопцамі даў урачыстую клятву на вернасць Радзіме.

Усім прызыўнікам была ўручана кніга-хроніка "Памяць".

Аб тым, чаму вучаць у арміі, яны і ўсе прысутныя ўвачавідкі ўбачылі, прагледзеўшы паказальныя выступленні ваеннаслужачых асобай брыгады войскаў спецыяльнага прызначэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь з г.Мар'іна Горка. Сярод іх былі і два нашых землякі — Міхаіл Юрашкаў і Павел Рабіза, якія праходзяць у спецназе тэрміновую службу.

Наступная старонка свята была прысвечана людзям, якія сваімі рукамі, выкарыстоўваючы фантазію, робяць прыгожым наш родны Кіраўск. Як, напрыклад, жыхары дома №35 па вуліцы Валадарскага Аляксей Ціханавіч і Раіса Аляксандраўна Сычыкавы. Ля іх дома — прыгожыя клумбы, у выдатным стане сад, агарод. Нягледзячы на сталы ўзрост, гаспадары трымаюць сваё жыллё ва ўзорным парадку. Увосень гэтага года яны будуць святкаваць 50-годдзе сумеснага сямейнага жыцця. Аляксею Ціханавічу і Раісе Аляксандраўне быў паднесены падарунак — чайны сервіз з пажаданнямі, каб часцей збіраліся за кубкам чаю іх дзеці, унукі і праўнучка.

"Брыльянтавае" вяселле згулялі ўжо жыхары вёскі Капусціна Кузьма Анфімавіч і Аўдоцця Ермалаеўна Чэкулаевы: 73-і год крочаць яны поплеч жыццёвай сцяжынкай. Прысутныя шчыра віталі сямейную пару і з цікавасцю слухалі расказ аб гэтых цудоўных людзях. Кузьма Анфімавіч — свяшчэннаслужыцель Капусцінскай царквы, да яго ідуць людзі за духоўнай падтрымкай. Ён усё жыццё сцвярджае, што няма нікога ў свеце лепш і прыгажэй за яго Аўдоццю Ермалаеўну. У 1928 годзе прыглянулася яна дваццацігадоваму Кузьму і нягледзячы на забарону маці звязваць з ёй свой лёс, бо была яна дзяўчынай з беднай сям'і, ён ажаніўся на ёй, і ўсё жыццё напалам дзялілі гора і радасці. Выгадавалі чацвярых дзяцей, маюць унукаў, шмат праўнукаў.

Чарговая старонка свята прысвячалася сельскім працаўнікам, якія старанна і рупліва шчыруюць на зямлі, ствараючы пачатак усіх пачаткаў — хлеб. Адбылася цырымонія ўзнагароджвання Ганаровымі граматамі райвыканкама і грашовымі прэміямі пераможцаў спаборніцтва за своечасовае і якаснае правядзенне веснавой сяўбы. Узнагароды ўручылі першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання С.У.Свірко і старшыня раённага каардынацыйнага савета прафсаюзаў М.С.Худавец.

На працягу ўсіх урачыстасцей свае музычныя прывітанні дарылі прысутным артысты мастацкай самадзейнасці раённага Дому культуры, вучні раённай школы мастацтваў.

Іх святочную эстафету працягваў конкурс "Іграй, гармонь!" Сцэна ператварылася ў своеасаблівы музычны рынг, на якім першынство аспрэчвалі аматары гармоніка розных узростаў. Журы прызнала пераможцамі Р.М.Клімовіча з Мышкавіч, кіраўчан В.А.Салановіча, Р.С.Акушэвіча і В.М.Міхалапа з Казуліч. Яны былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі.

Конкурс прыпевачнікаў праходзіў па форме тэлеперадачы "Эх, Сямёнаўна!" "Сценка" на "сценку" ішлі ў ім фальклорныя калектывы Стайкаўскага, Баравіцкага СДК, Казуліцкага, Хвайніцкага сельскіх клубаў. Выканаўцы падарылі гледачам шмат вясёлых хвілін.

Далей усіх жадаючых запрасілі на забаўляльна-пазнавальную праграму "Догшоу" з удзелам чацвераногіх сяброў чалавека — сабак. Падобнае шоу праводзілася ўпершыню, таму колькасць удзельнікаў была нешматлікая. Усім гаспадарам сабак былі ўручаны сувеніры.

Вялікую актыўнасць дзяцей выклікала праведзеная для іх праграма "Дзень добры, лета!"

Спартыўная старонка свята ўмясціла ў сябе легкаатлетычны прабег, спаборніцтвы па веласпорту, шашках, дардсу.

На стадыёне быў шырока разгорнуты гандаль прадукцыяй прадпрыемстваў райцэнтра і іншай, свае паслугі прапаноўвалі гандлёвыя кропкі райспажывтаварыства, камбінат грамадскага харчавання, прадпрымальнікі.

**Наталля ХАДАКОВА.**
**На здымках:** ***фрагменты свята.***







Фота Івана Лукановіча.

## *Выплаты*

# ГЭТА Ў ВАШЫХ ІНТАРЭСАХ

У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку прызначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, у выпадку прыпынення адпачынку па догляду за дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў, калі маці выходзіць на работу на поўны ці няпоўны рабочы дзень, а таксама пры афармленні дзіцяці ў дашкольную ўстанову дапамога выплачваецца ў памеры 50 працэнтаў ад устаноўленай сумы. Таму пры дасягненні дзіцяці ўзросту 1,5 года маці абавязана прадаставіць у бухгалтэрыю па месцы атрымання грошай даведку ад участковага ўрача аб тым, што дзіця не наведвае дашкольную ўстанову.

Каб вызначыць правільнасць прызначэння і выплаты дапамог сем'ям на дзяцей да 3 гадоў, у маі былі праверaны дзіцячыя садкі №№2 і 3 райцэнтра. Устаноўлена, што гэтыя ўстановы наведвае 61 дзіця ва ўзросце да 3 гадоў. У дадзеным выпадку ў 26 арганізацыях, дзе працуюць маці дзяцей, ім выплачваліся дапамогі. З іх у райбальніцы, аддзеле адукацыі, на дрэваапрацоўчым камбінаце, масларобчым заводзе выяўлены парушэнні. У выніку бацькам пераплачана 31486 рублёў, гэта сума з улікам інфляцыі будзе з іх спагнана.

У двух выпадках выяўлена, што непрацуючыя бацькі нікуды не звярталіся наконт афармлення дапамогі на дзяцей і яе не атрымлівалі наогул.

Выяўлена парушэнне Палажэння і ў аддзеле сацыяльнай абароны насельніцтва. Так, пасля спаўнення дзіцяці 1,5 года работніца прадаставіла даведку, што яно не наведвае дзіцячы садок. Аднак ва ўзросце 2 гадоў дзіця было аформлена ў дашкольную ўстанову, аб чым маці не паведаміла ў бухгалтэрыю па месцы работы. У гэтым выпадку пераплата склала 16557 рублёў, яе з улікам інфляцыі неабходна будзе вярнуць.

**Зоя СТАВЕР,**
**начальнік раённага аддзела Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

## Здарэнне

# НЕЧАКАНЫ ВІЗІТ

Язерскія, як і абсалютная большасць кіраўчан, трымаюць на падвор'і парсючка, курэй. Сёлета вырашылі абзавесціся і гусямі. Хоць і дарагія — адно гусяня вясной каштавала паўтары тысячы рублёў, купілі два дзесяткі. Купілі канцэнтратаў, каб дабаўляць , мешанку, а травы хапае. Асабліва зараз, пасля дажджоў. Клапатлівы гаспадар нават вальер — выгульны дворык — ім адгарадзіў. Добры догляд зрабіў сваю справу: гусяняты прыбывалі літаральна на вачах.

Усё было б добра, але перад выхаднымі Язерскія, параіўшыся, вырашылі гусей не заганяць у хлевушок. Пакінулі чародку на двары. Раніцай, калі гаспадыня пайшла ўпраўляцца, вачам сваім не паверыла: гусяняты ляжалі мёртвыя. Гаспадар, як мог, супакойваў жонку: маўляў, тое прапала, што з возу ўпала. А сам месца не знаходзіў.

Першае падазрэнне ўпала на тхара. Абышоўшы агарод, заўважыў сляды. На глебе пасля дажджу адбіткі былі асабліва чоткімі. Прыгледзеўся лепш, вызначыў, што сляды належаць куніцы. Гэтыя звяркі з каштоўным мехам апошнім часам пасяліліся ў гарадскім пасёлку. Лепшым прытулкам для іх служаць гарышчы дамоў, у якіх не жывуць людзі, іншыя пакінутыя пабудовы. Каб пераканацца, на ноч паставіў Леанід Лазаравіч пастку. Вопытны паляўнічы, ён ведаў, што куніца абавязкова вернецца за здабычай на наступную ноч. Для прыманкі пакінуў некалькі гусянят. І што вы думаеце? Раніцай Лазаравіч першым пайшоў на двор. Як і меркаваў, у пастцы сядзела куніца. Тым часам у будцы мірна спаў гончы сабака.

Пасля ўдалага "палявання" крыху адлегла на душы ў жонкі. Параіўшыся, вырашылі купіць качанят. Да восені вырастуць.

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**

# ВНУ ЧАКАЮЦЬ АБІТУРЫЕНТАЎ

88 тысяч выпускнікоў 11-х класаў пакінулі ў гэтым годзе сцены школ рэспублікі. Самыя здольныя з іх будуць штурмаваць вышэйшыя навучальныя ўстановы: толькі ў дзяржаўных падрыхтавана для абітурыентаў больш чым 66 тысяч месц. Прагназуецца, што сёлета конкурс сярод абітурыентаў у цэлым складзе 2,7 чалавека на месца. Найбольш вострая барацьба зноў чакаецца ў Лінгвістычным і Эканамічным універсітэтах, універсітэце культуры, БДУ і ў Акадэміі МУС.

## *Рэха выпускных баляў*

# НЯХАЙ ЖЫЦЦЁ ВАША БУДЗЕ ШЧАСЛІВЫМ!

З Жыліцкай сярэдняй школы ў самастойнае жыццё пайшлі сёлета 13 выпускнікоў, сярод якіх шэсць медалістаў. З залатымі медалямі закончылі 11 класаў Дзмітрый Комар і Аляксандр Шэпшалеў, з сярэбранымі — Дзмітрый Стромскі, Вольга Шалкоўская, Ганна Бычкова і Вольга Шведаўская.

Дырэктар школы В.Ф.Казлоў, намеснік дырэктара М.Г.Зайцава, класны кіраўнік Т.Я.Казлова ў сваіх цёплых прамовах пажадалі рабятам, каб былі яны ў жыцці шчаслівымі, дабіліся сваёй мэты і заўсёды заставаліся добрымі людзьмі.

Пранікнёнымі былі і выступленні бацькоў Л.В.Комар, М.У.Шалкоўскага. Яны дзякавалі настаўнікам, якія з разуменнем, цеплынёй і шчырасцю адносіліся да іх дзяцей, дапамагалі бацькам выхоўваць юнакоў і дзяўчат, за якіх зараз не сорамна.

Ад імя сёлетніх выпускнікоў выступіў Аляксандр Шэпшалеў. Ён выказаў шчырыя словы ўдзячнасці настаўнікам, бацькам, паабяцаў, што яго аднакласнікі ніколі не забудуць тое добрае, што для іх рабілі старэйшыя.

Песні аб дзяцінстве, школе выконвалі Вольга Шалкоўская, Наталля Сапега, а акампаніраваў ім Дзмітрый Комар.

Вельмі спадабалася ўсім прысутным выступленне настаўніцкай каманды "Оба-на". Што чакае ў жыцці выпускнікоў, што было раней, ім прадказвала цыганка, у ролі якой выступала намеснік дырэктара школы па выхаваўчай рабоце Н.Я.Лук'янава.

На працягу ўсяго вечара ў прыгожа аформленай зале гучалі песні, усе весяліліся, некаторыя нават плакалі. А віноўнікі ўрачыстасці, у прыгожых святочных касцюмах і сукенках, трымаліся ўпэўнена, ад душы весяліліся і жартавалі.

Няхай жыццё ваша будзе шчаслівым, паважаныя выпускнікі! Не засмучайцеся перад перашкодамі, заўсёды ўпэўнена ідзіце па дарозе жыцця.

**Лідзія СІНІЦКАЯ,**
**член выканкама.**

# *УДАЧЫ ВАМ, ВЫПУСКНІКІ!*

Прайшоўшы напярэдадні дождж не сапсаваў настрой сёлетнім выпускнікам, настаўнікам, бацькам, запрошаным гасцям, якія сабраліся ў школе на выпускны вечар. Маланка пашкодзіла электралінію, і, каб не застацца без музыкі, арганізатары вырашылі пакарыстацца паслугамі акампаніятара мясцовага Дома культуры Г.С.Князевай. І ўсё прайшло выдатна, прысутныя заста-ліся задаволенымі.

Ва ўрачыстай атмасферы дырэктар школы В.В.Цыбульская ўручыла выпускнікам атэстаты сталасці, якія на прыгожым ручніку вынеслі на сцэну дзесяцікласнікі. Вольга Васільеўна пажадала рабятам шчаслівай дарогі па жыцці, быць аптымістамі і не забывацца адзін пра аднаго.

Затым вечар праходзіў у вясёлай і жартаўлівай форме, якую прыдумалі віноўнікі ўрачыстасці. Вядучыя трэцякласніца Даша Сцёпіна і чацвёртакласнік Алёша Осіпаў па-майстэрску аб'яўлялі пераможцаў сярод настаўнікаў у розных з 18 намінацый, ім уручаўся галоўны прыз "Стальны нерв", памятны медаль і кветкі. Галоўны прыз за спонсарскую дзейнасць атрымала і дырэктар мясцовага саўгаса "Шыннік" Т.М.Замкова.

У сваіх прамовах намінанты віншавалі выпускнікоў з заканчэннем школы, жадалі ім дабіцца сваёй мэты, не згубіцца ў вялікім натоўпе, выбраць справу па душы. Шчырым было і выступленне першай настаўніцы Г.А.Сідарэнка. Яна дала сваім выхаванцам наказ стаць сапраўднымі людзьмі.

Усе, хто выступаў у той вечар перад выпускнікамі, гаварылі, што лёгкага жыцця не бывае, таму патрэбна быць упэўненымі ў сабе, не баяцца цяжкасцей.



Расставацца заўсёды цяжка. Гэта мой першы выпуск, таму на душы шкадаванне, што тых дзён, калі мы былі разам, весела праводзілі вольны час, больш не вернеш. Але жыццё ёсць жыццё, яно працягваецца. І няхай яно будзе для вас удачным, мілыя мае выхаванцы! Ведайце, мы вас помнім і любім, прыходзьце да нас са сваімі клопатамі і праблемамі.

**Вольга ГУЗЯЛЕВІЧ,**
**класны кіраўнік былога 11 класа Чыгірынскай СШ.**

## * Чалавек і яго справа


Фота Івана Лукановіча.

***Дзевяць гадоў працуе прыбіральшчыцай службовых памяшканняў у Паўлавіцкай СШ гэтая мілая і абаяльная жанчына Людміла Адольфаўна Лапухіна, якую вы бачыце на здымку. У яе абавязкі ўваходзіць падтрыманне чысціні і парадку ў класах, кабінетах, лабараторыях школы. І робіць яна гэта старанна, з адказнасцю, імкнецца, каб школа была ўтульным домам для вучняў і настаўнікаў.***

***Пакуль ідуць заняткі, Л.А.Лапухіна ўся ў клопатах: штодня мые падлогу, працірае пыл, сочыць, каб гарэзлівая рабятня залішне не нашкодзіла. Зараз у школе адносна зацішна. Аднак гэта ўяўнае меркаванне, бо як толькі заканчваецца навучальны год, школа пачынае падрыхтоўку да наступнага. На правядзенне рамонту тут, як і ў іншых школах раёна, частка сродкаў збіраецца бацькамі. На іх набываюцца фарба, шпалеры. У рамонтных работах самы актыўны удзел прымаюць тэхработнікі, сярод якіх, і Л.А.Лапухіна. У школе яе паважаюць за сціпласць, дабрыню, стараннасць, гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу. Ганарацца мамай і дзве яе дачкі-выдатніцы, якія закончылі сёлета 7 і 8 класы адпаведна. Людміла Адольфаўна — прыкладны работнік, клапатлівая маці і руплівая гаспадыня.***

## Юрыдычная кансультацыя

# ПАСАДАВЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

У юрыдычнай літаратуры пасадавымі злачынствамі прызнаюцца наўмысныя ці неасцярожныя грамадска небяспечныя дзеянні пасадавых асоб, накіраваныя супраць інтарэсаў службы, з выкарыстаннем пасадавых паўнамоцтваў ці ў сувязі з выкарыстаннем абавязкаў па рабоце, якія робяць замах на нармальную, правільную дзейнасць дзяржаўнага і грамадскага апарату і наносяць шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам ці правам і інтарэсам грамадзян.

Пасадавыя злачынствы небяспечныя перш за ўсё тым, што нараджаюць абгрунтаваны недавер грамадзян да дзяржаўных і грамадскіх устаноў, дыскрэдытуюць іх дзейнасць.

У адпаведнасці з законам пад пасадавымі асобамі разумеюцца: прадстаўнікі ўлады (дзяржаўныя служачыя, якія маюць права ў межах сваёй кампетэнцыі даваць распараджэнні і загады, прымаць рашэнні адносна сваіх падначаленых); прадстаўнікі грамадскасці (асобы, якія не знаходзяцца на дзяржаўнай службе, але валодаюць, нададзенымі ім ва ўстаноўленым парадку паўнамоцтвамі прадстаўнікоў улады пры выкананні абавязкаў па ахове грамадскага парадку, барацьбе з правапарушэннямі, вядзенню правасуддзя); асобы, якія пастаянна ці часова па спецыяльных паўнамоцтвах займаюць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распараджальных (кіраўнікі ўстаноў, арганізацый, прадпрыемстваў і іх намеснікі, кіраўнікі структурных падраздзяленняў і іх намеснікі, кіраўнікі ўчасткаў работ — майстры, прарабы, брыгадзіры) або адміністрацыйна-гаспадарчых (начальнікі планава-гаспадарчых, забеспячэнцкіх, фінансавых аддзелаў, іх намеснікі, загадчыкі складаў, атэлье, магазінаў, ведамасныя рэвізоры і г.д.) абавязкаў ці асобы, упаўнаважаныя на ўчыненне юрыдычна значных дзеянняў (напрыклад, урач — за злоўжыванне паўнамоцтвамі, звязанымі з выдачай лісткоў непрацаздольнасці, выкладчык — за парушэнне абавязкаў, ускладзеных на яго як на члена экзаменацыйнай камісіі).

У дзеючым Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь замацавана 9 саставаў пасадавых злачынстваў: злоўжыванне ўладай ці службовым становішчам, бяздзеянне ўлады, перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў, халатнасць, атрыманне хабару, пасрэдніцтва ў хабарніцтве, пасадавы падлог, утойванне ці адмаўленне ад прадастаўлення афіцыйных дакументаў. У новым Крымінальным кодэксе, які будзе ўведзены ў дзеянне спецыяльным законам, апошні састаў злачынства адсутнічае, але ўведзена адказнасць за незаконны ўдзел у прадпрымальніцкай дзейнасці насуперак забароне, устаноўленай законам. Таксама, згодна новага крымінальнага заканадаўства назва артыкула "Пасадавыя злачынствы" заменена на "Злачынствы супраць інтарэсаў службы". У ім прадугледжана адказнасць не толькі пасадавых асоб, але і служачых. Напрыклад, прыняўшы незаконнае ўзнагароджанне, служачы дзяржаўнага апарата можа быць пакараны пазбаўленнем права займаць сваю пасаду тэрмінам да двух гадоў, ці нават пазбаўленнем волі тэрмінам на тры гады.

Сярод усіх пасадавых злачынстваў найбольш небяспечным з'яўляецца хабарніцтва. Менавіта яно нараджае, так званую, карупцыю, а апошняя, у сваю чаргу, — арганізаваную злачыннасць.

Прадмет хабару, як вызначае Пленум Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, можа выражацца ў грашах, каштоўных паперах, матэрыяльных каштоўнасцях, а таксама ў аказваемых бязвыплатна, але патрабуючых аплаты, паслугах. Напрыклад, прадастаўленне турыстычных пуцёвак, праязных білетаў і інш.

Зразумела, хабарніцтва не застаецца беспакаральным. Больш таго, за атрыманне ці дачу хабару прадугледжаны самыя строгія санкцыі. Па дзеючаму Крымінальнаму кодэксу за гэтае злачынства можна пазбавіцца волі адпаведна да 10 і да 8 гадоў. Новы крымінальны закон хаця і зніжае значна меру пакарання, але санкцыі пакідае дастаткова жорсткімі: атрыманне хабару тоіць ў сабе пазбаўленне волі тэрмінам на 6 гадоў, хабарадавальнік можа паплаціцца трыма гадамі пазбаўлення волі (калі ўчыніў падобнае ўпершыню).

Зыходзячы з усяго сказанага, хацелася б звярнуць вашу ўвагу на наступнае: перш, чым аказацца ўцягнутымі ў злачынную дзейнасць, задумайцеся, а ці варта так караць сябе, сваіх блізкіх і, з другога боку, заахвочваць карупцыю?

**Аляксандр ШВЕДАЎ,**
**следчы пракуратуры.**

## Думкі ўслых

# ЗЯМЛЯ НЕ ЗРОБІЦЬ БАГАТЫМ...

У гэтым у апошнія некалькі гадоў пераконваюцца многія жыхары райцэнтра, у якіх у карыстанні маюцца зямельныя надзелы за межамі населенага пункта. Мяркуючы атрымаць такі-сякі прыбытак да мізэрных зарплат, якія выплачваюцца несвоечасова, кіраўчане не сядзяць склаўшы рукі ў выхадныя і будні дні. З ранняй вясны да позняй восені шчыруюць яны на "Пелі", пад Капусціна, каб вырасціць сельгаспрадукцыю і самім убраць яе, апярэдзіўшы аматараў лёгкай нажывы.

У тых гаспадароў, хто не мае ўласнай тэхнікі, каб апрацаваць зямлю, пастаянны галаўны боль: "Дзе знайсці трактар, каб узараць, забаранаваць, пасеяць, пасадзіць, абагнаць, зжаць, абмалаціць, выкапаць?" і г.д. І на гэта затрачваюцца немалыя сродкі. Прынамсі, за іх восенню можна было б набыць гатовую прадукцыю. Толькі дзе там? Хочацца свайго, з уласнага ўчастка.

Але ж не многія атрымліваюць жаданы ўраджай. І вінавата тут не толькі надвор'е. Сёлета вароны і гракі "прапалолі" ўсе пасевы гарбузоў, кабачкоў, фасолі — яны сваімі дзюбамі павыцягвалі расліны. Не дапамагаюць ні пудзілы, ні іншыя хітрыкі гаспадароў.

Няма ратунку сёлета і ад каларадскіх жукоў: збірай іх, не збірай, а шкоднікаў не змяншаецца. Людзі ў роспачы: што рабіць з імі, як змагацца?

На выручку кіраўчанам прыйшло ААТ "Кіраўская райсельгасхімія", якое толькі за адзін дзень рэалізавала 1000 ампул ядахімікатаў. Попыт на яды ёсць, але няма свабодных грошай, каб набыць іх і рэалізаваць насельніцтву.

Паклапаціліся пра сваіх вяскоўцаў работнікі Казуліцкага сельскага Савета дэпутатаў. Яны дамовіліся з прадстаўнікамі фірмы, якая займаецца рэалізацыяй ядаў, якія прыехалі ў вёску і прадалі насельніцтву хімікаты па таннейшаму кошту, чым у гандлі.

Не за гарамі ўжо і ўборка збожжавых культур, толькі радасці ад гэтага ў кіраўчан няма. З-за надворных умоў не будзе атрыманы запланаваны ўраджай. Турбуе людзей і пытанне з забеспячэннем камбайнам. Таму ўжо час канкрэтна вызначыцца кіраўнікам пэўных арганізацый, хто будзе аказваць платныя паслугі насельніцтву ў гэтым плане.

Вось і прыходзіцца меркаваць, што зямля не зробіць багатым, а гарбатым. З гэтым згодныя многія кіраўчане.

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

# ПРОГРАММА ТЕЛЕПЕРЕДАЧ

## ПЯТНИЦА, 7 июля

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.50** Новости. **8.15** Док. фильм. **8.30** Потребительская корзина. **8.45, 11.55, 18.45** Дневник фестиваля "Славянский базар в Витебске-2000". **9.10** "Поехал поезд в Бульзибар". Худ. фильм. **10.15** "Поры года. Сказка Купалья". **10.40** Телебарометр. **11.15** "Все мои дети". Телесериал. **12.10** "Премьер-парад". **12.35** Усадьба. **14.25** Бон тон. **15.10** Мультфильмы. **15.30** Регион. **15.55** "Риск-версия". **16.25** Телебарометр. **16.40** МСН. **17.10** "Славянский базар в Витебске-2000". Гала-концерт юных участников фестиваля. **19.20** "Москва — Минск". **19.55** "Все мои дети". Телесериал. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.30** "Славянский базар в Витебске-2000". Гала-концерт. **0.00** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости. **8.15** "Вавилонская башня". Сериал. **9.15** А.Баянова в программе "Женские истории". **9.45** Клуб "Белый попугай". **10.30** Сериал "Лето наших надежд". **13.30** "Вместе". **14.15** Мультазбука. **14.30** Страна чудес. Фильм "Птичку жалко". **15.55** "Вавилонская башня". Сериал. **17.30** Джентльмен-шоу. **17.55** Человек и закон. **18.40** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Детектив "Убийство в трех актах". **22.30** Финал международного конкурса молодых модельеров. **23.35** Комедия "Игра рейтингов".

**"РОССИЯ"**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **8.35** "Ну, погоди!" **8.45** Москва — Минск. **9.15** "Цыганка". **10.05** "Санта-Барбара". **15.40** Телеспецназ. **16.30** "Короли российского сыска". Фильм 3-й. **17.25** "Монахини в бегах". **18.25** "Городок". **19.45** Детектив "Игра всерьез". **22.35** Худ. фильм "Подмосковные вечера". **0.20** Дежурная часть. **0.35** "Славянский базар в Витебске-2000". "Звезды балета России".

**"КУЛЬТУРА"**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Разные люди". Спектакль, 7-я серия, закл. **12.40** Мультфильм. **13.00** "Время музыки". **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Мультфильм. **14.20** "Окно" Н.Русланова. **14.45** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.35** "Его величество кайзер Вильгельм II". Док. фильм. **16.05** Г.Малер. Адажиетто из симфонии №5.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Телесериал. **8.55** Мультсериал. **9.10** "Майская ночь, или утопленница". Фант. повесть. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** "За гранью возможного". **17.45** Мультфильм. **18.00, 20.05** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** Пунктир. **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** Рейтинг-фильм.

## СУББОТА, 8 июля

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **7.55** Сущность. **8.20** Усадьба. **8.45, 10.50** Дневник фестиваля "Славянский базар в Витебске-2000". **9.00, 15.00, 16.00, 19.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами..." **9.50** "Все нормально, мама!" **10.20** "Одиссея команды Кухто". **11.05** Компьютерный полигон. **11.25** Вершина мира. **11.50** Столица. **12.20** Сельчане. **12.45** Книгосбор. **13.10** МСН. **13.25** Сделано в Беларуси. **13.40** Познай себя. **14.00** "Славянский базар в Витебске -2000". Конкурс молодых исполнителей. **16.10** Олимп. **16.40** Ток-шоу "Будни". **17.25** Мелодрама "Любовь — не игрушка". **18.45** Дневник фестиваля "Славянский базар в Витебске-2000". **19.15** Из достоверных источников. **19.35** "Три лимона для любимой". Худ. фильм. **20.40** "Христофор". **21.00** Панорама. **23.10** "Славянский базар в Витебске-2000". **23.50** Видимо-невидимо.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Слово пастыря. **7.25** "Все путешествия команды Кусто". **8.15** Играй, гармонь любимая! **8.45** "Ералаш". **9.10** Смак. **9.30** Спасатели. Экстренный вызов. **10.00** "С легким паром!" **10.35** Утренняя почта. **11.05** Худ. фильм "Свой среди чужих, чужой среди своих". **13.05** В мире животных. **13.45** История одного шедевра. Русский музей. **14.10** "Горец". **15.00** Седьмое чувство. **15.40** "Триумф-2000". **16.15** Угадайка. **17.15** "Ералаш". **17.25** А.Шуранова в программе "Женские истории". **18.00** Юбилейный вечер Юрия Николаева. **20.00** Программа Сергея Доренко. **20.55** Комедия "Мой кузен Винни". **23.05** С.Кристель в фильме "Любовник леди Чаттерлей".

**"РОССИЯ"**

**7.00** "Славянский базар в Витебске-2000". **7.10** "Славянский базар в Витебске-2000". "Радуга над Витебском". **8.30** Почта РТР. **9.00** Доброе утро, страна. **9.45** "Сто к одному". **10.35** Сам себе режиссер. **11.05** "Друзья-II". Сериал. **11.35** Золотой ключ. **12.00, 19.00** Вести. **12.20** Федерация. **13.10** "Крутые двойники". Худ. фильм. **15.15** Планета Земля. **16.10** "Вечера в Политехническом". **17.05** Моя семья. **18.05** "Два рояля". **19.45** "Аншлаг" и К°. **20.50** Комедия "Гранд-отель". **22.55** Боевик "Кровавый спорт-III".

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Российский курьер". **10.10** "Кино вчера и всегда". **10.35** "Песня первой любви". Худ. фильм. **12.15** Мультфильм. **12.35** Графоман. **13.00** Парижский журнал. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Случайные встречи". Худ. фильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Таинственный остров". Фильм-детям. **16.35, 18.20** "Праздник в Вашем доме". **17.35** "Эко-Пойнт". Телесериал. **19.30** Телемагазин. **19.40** "Странная парочка-2". Комедия. **21.15** Видеодром. **21.35** "Один шанс на двоих". Боевик. **23.20** Астро-дайджест. **23.25** "Самый желанный мужчина". Комедия.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 июля

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **7.55** Мультсериал. **8.20** Здоровье. **8.45, 11.20, 21.15** Дневник фестиваля "Славянский базар в Витебске-2000". **9.00, 15.00** Новости. **9.15** Потребительская корзина. **9.30** Мультиклуб. **10.00** Туробъектив. **10.25** "Все нормально, мама!" **10.55** "Премьер-парад". **11.35** Марсово поле. **11.55** Золотые ключи. **12.25** "На волне взаимопонимания". **13.15** "На гребне волны". **14.00** Док. сериал "Сокровенные люди". **14.15** МСН. **14.30** "Сегодня с вами..." **15.15** Белорусский дом. **15.45** Наши песни. **16.15** Теленавигатор. **16.35** "У Замковой горы". **17.00** Банка комиксов. **17.30** Мелодрама "Любовь — не игрушка". **18.45** "Аккредитация, или Мгновения "Славянского базара в Витебске-2000". **19.00** "Судьба человека". **19.30** Стадион. **20.00** Резонанс. **20.50** Док. фильм. **21.30** "Славянский базар в Витебске-2000". Конкурс молодых исполнителей. **0.00** Автопарк.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Армейский магазин. **7.40** "Дисней-клуб": "Аладдин". **8.10** Утренняя звезда. **9.10** "Непутевые заметки". **9.30** Пока все дома. **10.05** "Альф". **10.35** Здоровье. **11.05** Худ. фильм "В той стране". **13.05** Клуб путешественников. **13.45** История одного шедевра. Русский музей. **14.10** "Горец". **15.05** Возможно все! **15.20** "Дисней-клуб": "101 далматинец". **15.50** "Дисней-клуб": "Новые приключения Винни-Пуха". **16.15** "Чтобы помнили..." Константин Сорокин. **17.10** "Ералаш". **17.20** Смехопанорама. **17.55** Комедия "Дикарь". **20.00** Время. **21.00** КВН-2000. **23.05** Время футбола. **23.50** Худ. фильм "Счастливые дни".

**"РОССИЯ"**

**7.00** Папа, мама, я — спортивная семья. **7.55** Служу Отечеству! **8.20** Устами младенца. **8.50** Доброе утро, страна. **10.30** "Аншлаг" и К°. **10.30** "Городок". **11.00** Русское лото. **11.40** Мультфильмы. **12.00** Вести. **12.20** Парламентский час. **13.10** Новая "Старая квартира". **14.10** Диалоги о животных. **15.05** "Персона". **16.00** Пресс-клуб. **17.00** "Международная панорама". **17.35** Кинокомедия "Добро пожаловать, или Посторонним вход запрещен". **19.00** Зеркало. **20.00** Боевик "Доспехи бога-II". **22.00** "Славянский базар в Витебске-2000". "Криницы Беларуси". **23.20** "Славянский базар в Витебске-2000". "Золотые голоса Украины". **0.40** Реальное кино. **1.05** Док. фильм.

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Варвара краса — длинная коса". Худ. фильм. **10.55** Мой цирк. **11.20** Экспедиция "Чиж". **11.50** "Консилиум". **12.15** Эра милосердия "Дети — детям". **12.55** Мультфильмы. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Ловушка в старом доме". Худ. фильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Скарбы". **15.30** Мультсериал. **16.15** Фильм-детям "Маленькая принцесса". **17.50** "Блеф-клуб". **18.20** "Эко-Пойнт". Телесериал. **18.50** Мультфильм. **19.05** Телемагазин. **19.15** "Мумия в наколках". Комедия. **20.35** Астро-дайджест. **20.40** "Однажды вечером". **21.30** "Центр паутины". Детектив. **23.05** "Встреча с..." Л.Черникова.

